**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№51(663)**
**20 снежня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

*Са святам нараджэння Хрыстова!*

vglybokaye@tut.by
**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае












## Ходзіць ксёндз па Калядзе

Паўставалі людзі рана -
Незвычайны сёння дзень:
Вёска наша ўсхвалявана -
Ходзіць ксёндз па Калядзе.

Харaство нібыта свята
Завітала зноў да нас -
Чыста так прыбраны хаты,
Снег у час прайшоў як раз.

Ксёндз наперадзе ступае,
Ксёндз жаданы ўсюды госць:
Кожны ў хату запрашае
І частуе ўсім, што ёсць.

І гучаць малітвы, песні -
Светла на душы да слёз,
Бо прыйшоў ён, Божы Веснік,
З невядомых нам нябёс.

Я гляджу і мне здаецца:
Людзі сталі маладзець -
Бог у хаце, Бог у сэрцы
Аж прыемна паглядзець!

Сапраўды, сягоння свята,
А не будні зімні дзень -
Урачыста з хаты ў хату
Ходзіць ксёндз па Калядзе.

***Падрыхтаваў кс. Аляксей Юркайць.***

## Полацкі раён

# Мёртвыя ... тушы

■ Станіслаў Раманчук

**Нібыта і нядрэнна ідуць па справаздачах справы цяпер у айчыннай сельскай гаспадарцы, аднак калі добра там праверыць, то ўсплываюць самыя неверагодныя факты безгаспадарчасці і прыпісак.**

Вось і ў Полацкім раёне пасля праверкі межраённым камітэтам Дзяржкантролю ферм сельгаспрадпрыемства “Астроўшчына” былі ўзбуджаны дзве крымінальныя справы. Тут, як і ў суседніх калгасах, часцяком дохлі цяляты і бычкі ад дрэннага догляду. Каб скрыць такія факты, калгасныя спецыялісты прыдумалі ў стылі гогалеўскага героя Чычыкава арыгінальную схему. Па складзеных дакументах нібыта 30 галоў маладняку перадалі сваім жа калгаснікам у лік заработнай платы альбо проста матэрыяльнай дапамогі. І сыходзіла з рук гэта “ліпавае мяса”, якое ніхто з людзей не паспрабаваў, бо тухляціну хіба які звер галодны з’есць. На практыцы, як было ўстаноўлена, здохла маладняку агульнай вагой больш тоны на адчувальную суму - 9 млн. рублёў. Калі паказаць праўду, пракуратура па галоўцы не пагладзіць ды і яшчэ можа прымусіць вярнуць прынесены ўрон дзяржаве з уласных кішэняў. З маўклівай згоды начальства адразу на чатырох фермах гаспадаркі рашылі замесці сляды безгаспадарчасці, але папаліся. Яшчэ больш аб’ёмныя факты розных махінацый выявіліся пасля праверкі Глыбоцкай птушкафабрыкі. Тут праваахоўныя ўстанавілі фальшывыя таварныя накладныя, фіктыўныя дагаворы паставак, шмат іншых ліпавых дакументаў, парушэнні тэрмінаў выплаты заробкаў і іншы букет злоўжыванняў. У выніку пасля візіту дзяржкантралёраў на птушкафабрыку ля райцэнтра ўзбуджана 9 крымінальных спраў.

## Докшыцкі раён

# З законам жарты дрэнныя

■ Чэслаў Якубовіч

**Яшчэ і сапраўднай зімы не было на вадаёмах вобласці, а туды нібы магнітам цягне аматараў пажывіцца дармавой рыбкай.**

Па чатырох падобных выпадках матэрыялы на парушальнікаў, у якіх на працягу тыдня было канфіскавана 26 сетак, былі накіраваны ў следчыя органы для ўзбуджэння крымінальных спраў. Звычайна такое бывае, калі на працягу года такі горарыбалоў рызыкуе паўторна парушыць прыродаахоўнае заканадаўства. А вось непрацуючага жыхара Верхнядзвінскага раёна мясцовы суд ужо адправіў у калонію агульнага рэжыму на 1 год і 6 месяцаў, калі той парадаваўся, што вылавіў 10 кг рыбы ( раней ён уплаціў толькі штраф за такое парушэнне). Таксама ў гэты час года цягне людзей і ў лес, аднак на працягу аднаго тыдня на Віцебшчыне ў браканьераў былі канфіскаваны 4 паляўнічыя стрэльбы і 315 кг здабытага мяса. У гэту статыстыку трапіў і жыхар вёскі Барсукі, што ў Докшыцкім раёне. Яму, напэўна, найбольш крыўдна з усіх затрыманых, бо і ніводнага стрэлу ў лясным масіве не зрабіў. Пры сустрэчы з супрацоўнікамі дзяржінспекцыі мужчына патлумачыў, што прыйшоў у лес наламаць хворасту, каб навязаць венікаў. А тое, што ў яго была з сабой пад курткай стрэльба, патлумачыў, што быццам знайшоў яе ў кустах заражданай і збіраўся аднесці зброю ў міліцыю. Такія тлумачэнні не прайшлі: суд пакараў вяскоўца 4 млн. рублёў штрафу, канфіскаваў стрэльбу і пазбавіў яго права на паляванне на працягу 3 бліжэйшых гадоў. У лясных масівах без атрыманага дазволу на адстрэл жывёлін і з незарэгістраванай зброяй нікому знаходзіцца не дазваляецца.

## Пастаўскі раён

# Ні грошай, ні работнікаў

■ Кастусь Александровіч

**Напрыканцы года ўпраўленцы ўсіх узроўняў ламаюць галовы, як выканаць пастаўленую задачу па павышэнні ўзроўню заработнай платы да акрэсленых 500 у. а.**

Аднак толькі ў буйным Пастаўскім раёне, каб наблізіцца да такіх рубяжоў, патрабавалася адшукаць недзе агромістую суму – дадатковых 8 млрд. рублёў. Горш таго, нечакана ўзніклі цяжкасці наогул з выплатай заробкаў на Пастаўскім льнозаводзе, з якім асноўны партнёр Аршанскі льнокамбінат не мог разлічыцца за пастаўленае на 990 млн. рублёў валакно. А на іншым прадпрыемстве краю, на заводзе жалезабетонных вырабаў у гарпасёлку Варапаева сутыкнуліся з іншай праблемай. У завадчан, праўда, таксама заробкі не вельмі высокія, у сярэднім каля 3 млн. рублёў у месяц. Аднак з-за крызісу будаўнічай галіны ў іх напалову зменшыўся попыт на прадукцыю і толькі апошнім часам пачалі паступаць заяўкі на металаканструкцыі. Аднак калі завод не быў загружаны, адтуль звольнілася амаль палова калектыву. З такіх восьі 90 чалавек большасць кваліфікаваных маладзейшых спецыялістаў з’ехалі ў Расію і сталі там зарабляць каля 2 тысяч долараў штомесяц. Цяпер на прадпрыемстве сутыкнуліся з недахопам людзей для рабочых змен. Рады ўзяць на працу нават аматараў прыкладсіцца да бутэлькі, але на вытворчасць цяжка знайсці нармальных работнікаў і не хапае ўжо цэлай брыгады з 12 чалавек. Яшчэ больш складаная задача па павышэнні даходаў на Варапаеўскім ДАКу, у сферы быту, у бюджэтнікаў і наогул па выплаце заробкаў у шэрагу слабых калгасаў.

# Аб самым надзённым

## ДЛЯ АЙЧЫННАЙ ЭКАНОМІКІ ПАЎСТАЛІ НОВЫЯ ПАГРОЗЫ, А РОСТ ВЫТВОРЧАСЦІ ЗМЯНІЎСЯ СПАДАМ




■ Аляксандр Цішкевіч

**Вось з апошняй гэтай нагоды не вытрымала нават наша самая ўплывовая прэзідэнцкая газета “Советская Белоруссия”, якая цэлую першую паласу аддала пад свой рэдакцыйны каментарый “Согграждан надо любить”. Пад гэтай цытатай “СБ”, упэўнены, падпішацца кожны беларус “сельхозники уверяют, что на полях и фермах всё в ажуре, а цены на колбасу не умещаются на ценниках”. Але пакінем вяскоўцаў у спакоі, усё ж дзякуючы іх працы не галадаем, хоць харчаванне ды і многае іншае ў Беларусі даражэй, чым у бліжэйшых суседзяў.**

На фінішы гэтага года раптам адкрылася многім, што ў Беларусі не ўсё так і добра, як лічылася раней. Вось і Беларускае радыё арганізавала днямі, як у перыяд ранейшага росквіту дэмакратыі часоў яшчэ Вярхоўнага Савета, прамую трансляцыю сустрэчы віцэ-прэм’ера па сельскай гаспадарцы Міхаіла Русага з дэпутатамі і сенатарамі абедзвюх палат Нацыянальнага сходу РБ. Гэты кіраўнік адкрыта сказаў, што перад беларускім АПК у бліжэйшыя некалькі гадоў паўстануць вялікія цяжкасці і пагрозы і не толькі па прычыне недахопу кадраў.

Па яго словах, уцякаюць работнікі і маладыя спецыялісты нават з эканамічна моцных гаспадарак. Яны пачалі працаўладкоўвацца ў суседніх краінах, лічы, што найболей на расійскіх прасторах. Таму стаіць задача ў бліжэйшыя некалькі гадоў выйсці ў галіне на заробкі па 8 млн. рублёў. А хутчэйшай перабудовы айчыннага АПК патрабуе найперш уступленне Расіі ў СГА, упэўнены віцэ-прэм’ер, бо спачатку расіян, а потым і нас могуць заваліць харчаваннем еўрапейскім, больш танным і канкурэнтназдольным.

З гэтай нагоды вось і сам У. Пуцін непакоіцца, правёў пасяджэнне Савета бяспекі РФ, каб мінімізаваць наступствы канкурэнцыі для расійскай жывёлагадоўлі, лёгкай і харчовай прамысловасці, машынабудавання, выпуска лякарстваў. Дагэтуль, не будзем забываць, Расія прадае нам самыя танныя ў Еўропе энерганосьбіты, а ў 2017 годзе яна будзе проста абавязана прадаваць іх па сусветных цэнах і знізіць дзярждатацыі АПК. Аднак пакуль таварыш М. Русы радуецца, што для беларусаў забяспечана “харчовая бяспека” і дасягнуты “нядрэнныя вынікі”.

Вось з апошняй гэтай нагоды не вытрымала нават наша самая ўплывовая прэзідэнцкая газета “Советская Белоруссия”, якая цэлую першую паласу аддала пад свой рэдакцыйны каментарый “Сограждан надо любить”. Пад гэтай цытатай “СБ”, упэўнены, падпішацца кожны беларус “сельхозники уверяют, что на полях и фермах всё в ажуре, а цены на колбасу не умещаются на ценниках”. Але пакінем вяскоўцаў у спакоі, усё ж дзякуючы іх працы не галадаем, хоць харчаванне ды і многае іншае ў Беларусі даражэй, чым у бліжэйшых суседзяў.

Аказваецца, і ў прамысловасці шэраг праблем. Звыш 500 буйных айчынных прадпрыемстваў стратныя. У выніку наша беларуская мадэль сёлета за 10 месяцаў забяспечыла рост унутранага ВУП толькі на 2,2 %, што на 11,7 % меней аналагічных паказчыкаў мінулага, крайне цяжкага для насельніцтва года. Зноў рост цэн дасягнуў амаль 20 %, скараціліся на 13,5% інвестыцыі ў асноўны капітал. І самае святое парушана, правальваецца праграма мадэрнізацыі дрэваперапрацоўчых прадпрыемстваў Беларусі, аб якой так хораша казалі на апошнім Усебеларускім сходзе.

Той жа “Барысаўдрэў” павінны былі мадэрнізаваць і наладзіць там вытворчасць еўрапейскіх пліртачных матэрыялаў з драўніны яшчэ ў снежні 2009 года, а ён не заканчаны і праз 3 гады. У гневе беларускі лідар забараніў работнікам дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў звальняцца адтуль падчас другой такой рабочай паездкі. На гэты конт лепей прамаўчаць, бо і са сваім галоўным саюзнікам Расіяй узніклі зноў супярэчнасці, не маглі доўга дамовіцца аб пастаўках у 2013 годзе патрэбных нам 23 млн. тон нафты (рускія згадждаліся паставіць толькі 18 мільёнаў). А як без гэтага нам у наступным годзе выплаціць ранейшыя знешнія даўгі пад 3 млрд. долараў ( у 2 разы болей, чым сёлета).

Пры гэтым у кастрычніку гэтага года ў Беларусі аб’ём прамысловай вытворчасці знізіўся ў параўнанні з пачаткам 2012 года на 26 % і сталі расці запасы гатовай прадукцыі на складах. Вось чаму насельніцтва інтуітыўна адчувае пагрозу новай дэвальвацыі рубля і далейшы рост цэн і ў новым годзе. Самае сумнае, што многія правільныя і патрэбныя задачы, якія стаяць перад намі, проста невырашальныя без кардынальных рынкавых структурных змен у эканоміцы. Ды і пакуль не наладзім мы нармальныя адносіны з заходнімі краінамі, няўжо тыя ж ЗША дадуць згоду на тое, каб і Беларусь прынялі ў СГА?

Ну, а пакуль будзем чакаць чырвоны дзень календара 7 лістапада 2013 года. Да такога тэрміна імем рэвалюцыі даручана завяршыць у Барысаве работы і мець там прадпрыемства экстра-класу пасля завяршэння ягонай мадэрнізацыі. Мадэрнізацыя – рэч сур’ёзная, тым болей, што “пацёмкінскім вёскам”, суцэльнай паказусе цяпер у нас быццам аб’яўлены рашучы бой.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 20.12.12 | | | | Пятніца 21.12.12 | | | | Субота 22.12.12 | | | | Нядзеля 23.12.12 | | | | Пнд.24.12.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -12 | -10 | -11 | -11 | -13 | -12 | -12 | -13 | -14 | -12 | -12 | -13 | -15 | -15 | -15 | -18 | -21 | -20 | -20 |
| Ціск | 760 | 759 | 758 | 757 | 757 | 755 | 755 | 754 | 753 | 752 | 752 | 752 | 752 | 752 | 753 | 754 | 755 | 756 | 757 |
| Вільготнасць | 80 | 81 | 80 | 84 | 82 | 86 | 77 | 79 | 77 | 82 | 82 | 83 | 81 | 82 | 77 | 74 | 79 | 75 | 81 |
| Вецер м/сек | 3 Пд-У | 2 Пд-У | 3 Пд-У | 3 Пд-У | 2 Пд-У | 1 У | 2 Пн-У | 2 Пн-У | 2 У | 3 Пн-У | 2 Пн-У | 3 Пн | 2 Пн-У | 4 Пн | 2 Пн | 3 Пн | 1 Пн | 3 Пн | 2 Пн |

## Дзень за днём

**Сумна, але за апошнія 20 гадоў колькасць насельніцтва Беларусі скарацілася без вайны на 770 тысяч чалавек. У канцы года намінальная сярэднямесячная налічаная зарплата ў беларусаў наблізілася амаль да 500 USD, аднак на складах было гатовай яшчэ непрададзенай прадукцыі на 22, 2 трлн. рублёў (56,9 % ад месячных аб'ёмаў вытворчасці). У краіне ўжо 6,3 млн. беларусаў рэгулярна карыстаюцца Інтэрнетам, за год іх колькасць сёлета павялічылася на трэць. На наступны год перанеслі стварэнне новага газетнага холдынга на базе "Советской Белоруссии". Восенню трэць жыхароў краіны зрабілі прафілактычныя прышчэпкі супраць грыпу, эпідэмія якога чакаецца ў студзені-лютым.**

# Важнейшыя навіны свету

**Ізраіль.** Армія краіны правяла паспяховыя выпрабаванні новай супрацьракетнай сістэмы "Прашча Давіда" радыусам дзеяння да 300 км, у яе моцная і дзеючая сістэма.

**Іспанія.** На датэрміновых выбарах у парламент Каталоніі прыхільнікі аддзялення ад Іспаніі набралі разам 57 % галасоў, рэгіён можа чакаць рэферэндум аб незалежнасці.

**Англія.** Кіраўнік урада Дэвід Кемеран прапанаваў рэальна скараціць расходы ЕС, але яго падтрымалі толькі 7 іншых дзяржаўдонараў арганізацыі і ён пакінуў залу перамоў.

**Грэцыя.** З другой спробы міністры фінансаў краін еўразоны дамовіліся выдзеліць грэкам новы крэдытны транш 44 млрд. і ўзгаднілі праграму скарачэння грэчаскага дзярждоўгу.

**Расія.** Прэм'ер-міністр РФ Дзмітрый Мядзведзеў пацвердзіў, што неўзабаве зноў можа балатавацца, каб удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах і стаць кіраўніком расіян.

**Кітай.** Новы лідар краіны Сі Цзіньпін аб'явіў новую кампанію па барацьбе з карупцыяй, расходы чыноўнікаў, супрацоўнікаў банкаў і фінкампаній будуць жорстка кантралявацць.

**Бангладэш.** На працягу трох дзён на двух швейных фабрыках краіны адбыліся буйныя пажары, спачатку ў агні загінулі 110 работніц, затым людзі паспелі выбрацца з цэха.

**Венесуэла.** Прэзідэнт Уга Чавес зноў адправіўся на Кубу на чарговы пяты курс лячэння і хіміятэрапіі, хоць летам аб'яўляў аб сваёй поўнай перамозе над ракам у касцях таза.

**Літва.** На фінансаванне работ па канчатковаму закрыццю Ігналінскай АЭС Еўрасаюз выдзеліў літоўцам яшчэ 460 млн. еўра, аднак гэту суму вызначылі ў цэнах 2011 года.

**ЗША.** Прама з ангара аэрапорта імя Д. Кеннедзі ў Нью-Йорку двое злачынцаў змаглі ўкрасці буйную партыю новых кітайскіх планшэтаў iPad mini коштам 1,5 млн. долараў.

**Ватыкан.** У сваёй новай выдадзенай кнізе Папа Рымскі Бенедзікт XVI напісаў, што Ісус нарадзіўся на некалькі гадоў раней да нашай эры, чым было прынята лічыць дагэтуль.

**Аўстрыя.** Міжнародны інстытут прэсы паведаміў, што сёлета ў свеце загінулі 119 журналістаў пры выкананні сваіх абавязкаў, найгорш сітуацыя ў Сірыі, Самалі і Мексіцы.

**Англія.** Моцныя праліўныя дажджы выклікалі паводку ва Уэльсе і на поўдні краіны, затапілі дарогі, больш тысячы дамоў, загінула некалькі чалавек, шмат было эвакуіравана.

**Германія.** Паліцыя затрымала 33-гадовую немку, якая спрабавала задушыць свайго грамадзянскага мужа ў ложку, выкарыстоўваючы для гэтага свае вялізныя грудзі.

**КНДР.** Нават з космасу стаў бачны новы хвалебны лозунг: "Няхай жыве Генерал Кім Чэн Ын, зіхатлівае Сонца!", напісаны на гары 20-метровымі літарамі даўжынёй 548 метраў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Бабруйск.** Пазачарговы сход акцыянераў ААТ "Чырвоны харчавік" пагадзіўся на павелічэнне статутнага фонду прадпрыемства з кантролем дзяржавы над вытворчасцю.

**Мінск.** Спецыялісты РНПЦ "Маці і дзіця" прыдумалі новы метад нараджэння ў спецлабараторыі здаровых дзетак у пар з гепацітам В і С і нават у носьбітаў ВІЧ-інфекцыі.

**Чэрвень.** Інспектар аховы прыроды адмовіўся ад хабару 10 тысяч $ і затрымаў траіх браканьераў, якія незаконна вылавілі амаль 150 кг рыбы і пойдуць цяпер пад суд.

**Пружаны.** Беспрацоўны, раней судзімы 22-гадовы жыхар райцэнтра атрымаў 8 гадоў турмы за серыю нападзенняў сёлета на 4 жанчын, якіх рабаваў з прымяненнем сілы.

**Мінск.** Падчас расследавання фінансавых махінацый у сталіцы арыштавалі трэцяга па ліку падпалкоўніка з Дэпартамента фінрасследаванняў Камітэта дзяржкантролю Беларусі.

**Ашмяны.** Па рашэнні кіраўніцтва мясцовай мытні быў знішчаны 41 фотаальбом "Прэс фота Беларусі 2011" здымкаў лепшых айчынных фатографаў, іх бачылі шмат дзе ў Еўропе

**Мінск.** У чарговым інтэрв'ю агенству Reuters А. Лукашэнка заявіў з насмешкай, што ён апошні і адзіны жывы дыктатар у Еўропе, ды і ў свеце дыктатараў болей нідзе няма.

**Магілёў.** Раней судзімая за крадзяжы 26-гадовая цяжарная гараджанка скрала кашалёк з грашыма ў работніцы гарбальніцы і напілася на іх, ёй пагражае зноў да 4 гадоў турмы.

**Горкі.** Супраць студэнта сельгасакадэміі распачалі крымінальную справу за ўгон пасля сумеснай выпіўкі іншамаркі 18-гадовага аднакурсніка, якую небарака разбіў, калі катаўся.

**Ліда.** Неверагодным чынам выжыў 56-гадовы жыхар горада, які на будоўлі дома ў Мінску ўпаў з 23-га паверха, ударыўся ў праём на 20-м паверсе і атрымаў цяжкія траўмы.

**Камянец.** Пагалоўе зуброў у нацпарку "Белавежская пушча" вырасла да 450 галоў і распладзілася настолькі, што стала пагражаць экасістэме рэгіёна, палям гаспадарак раёна.

**Мінск.** З-за нізкага інтарэсу гледачоў пасля хакейнага турніра Алімпіяды ў Сочы чэмпіянат свету-2014 па хакеі пройдзе ў іншым фармаце, ці зусім можа быць адменены.

**Масты.** Моцна п'янага літоўскага вадзіцеля-дальнабойшчыка затрымала ДАІ ў горадзе, яго "здаў" калега, які баяўся, каб суайчыннік на дарозе не забіў каго-небудзь.

**Ліда.** Мітрапаліт арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч сам згуляў у 1-м чэмпіянаце Беларусі па міні-футболе сярод каталіцкіх святароў, у ім перамагла каманда Гродзенскай дыяцэзіі.

**Жлобін.** У студзеньскі суперфінал еўрапейскага Кантынентальнага кубка здолелі прабіцца хакеісты мясцовага "Металурга", гэты каманда ўпэўнена лідзіруе і ў першынстве Беларусі

# Мясцовыя ўлады атрымаюць паўнамоцтвы на абмежаванне продажу алкаголю на заканадаўчым узроўні




■ **Анастасія Янушэўская, БелаПАН**

**Мясцовыя ўлады плануецца на заканадаўчым узроўні надзяліць паўнамоцтвамі па абмежаванні рэалізацыі алкаголю на падсправаздачнай ім тэрыторыі. Пра гэта паведаміў намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення — начальнік упраўлення прафілактыкі галоўнага ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі міліцыі і грамадскай бяспекі Міністэрства ўнутраных спраў Алег Каразей 13 снежня на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, для гэтага распрацаваны праект закона «Аб унясенні змяненняў у закон аб абароце вадкасці з утрыманнем спірту і алкагольнай прадукцыі Беларусі». У адпаведнасці з ім выканкамы атрымаюць права абмяжоўваць рэалізацыю спіртных напояў у дзень правядзення нейкіх мерапрыемстваў — выпускных школьных вечароў, акцый па прафілактыцы спажывання алкаголю.

Як заявіў Каразей, у цэлым МУС выступае за «больш настойлівае» правядзенне антыалкагольнай палітыкі ў Беларусі. Плануецца ініцыяваць шэраг мер па абмежаванні даступнасці спіртнога ў гандлёвай сетцы. «Спіртныя напоі не павінны знаходзіцца побач з харчовымі таварамі ў магазінах. Іх нельга разглядаць як прадукт паўсядзённага спажывання», — сказаў Каразей. Паводле яго слоў, напрыклад у Швецыі і Нарвегіі прадугледжаны асобныя магазіны ці як мінімум асобныя аддзелы для спіртнога. Пры гэтым адзін такі магазін прыпадае на 16 тысяч насельніцтва.

Як паведаміў прадстаўнік МУС, на парадку дня таксама стаіць пытанне аб павелічэнні санкцый за самагонаварэнне, нелегальны гандаль спіртным. Гэта пытанне абмяркоўваецца сумесна з калегамі з Міністэрства аховы здароўя і Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, зазначыў ён.

Каразей паведаміў, што абмяркоўваецца магчымасць устанаўлення абмежаванняў на набыццё спіртнога асобам, якія не дасягнулі 21 года. Апрача таго, варта «сур'ёзна займацца» праблемай прыхаванай рэкламы, мяркуе прадстаўнік МУС. «Вельмі часта па радыё рэкламуюць пітныя воды вядомых брэндаў, якія ва ўсіх людзей асацыююцца з алкагольнымі вырабамі», — сказаў ён.

Як нагадаў прадстаўнік МУС, спажыванне абсалютнага алкаголю на душу насельніцтва ў Беларусі зараз складае 13,3 л за год. Пры гэтым, паводле ацэнкі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, перавышэнне парогу спажывання алкаголю ў 8 л на душу насельніцтва ў год сведчыць аб дэградацыі нацыі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** За апошніх 1,5 года бударганізацыі вобласці пакінулі ўжо 10 тыс. кваліфікаваных будаўнікоў з-за нізкіх зарплат, прыкладна чвэрць усіх работнікаў галіны цяпер за мяжой.

**Паставы.** З залатым кубкам за лепшую экспазіцыю і 2 залатымі медалямі вярнуўся дамоў з Санкт-Пецярбурга малочны завод з XXI Міжнароднай выставы харчавання "Peterfood".

**Наваполацк.** Абласны бюджэт недаатрымаў істотныя сродкі з-за працы з няпоўнай нагрузкай мясцовага ААТ "Нафтан", калі прадпрыемства 2 месяцы праводзіла рамонт.

**Віцебск.** На асабістым прыёме грамадзян кіраўнік Нацбанка РБ Н. Ермакова паведаміла нумар свайго мабільнага тэлефона і запэўніла, што дэвальвацыі нацвалюты не чакаецца.

**Ушачы.** Па праграме "Дзеці Беларусі" ў аграгарадку Арэхаўна завяршылі ўзвядзенне 18-га па ліку ў вобласці дзіцячага дома сямейнага тыпу, у іх знайшлі прытулак 117 сірот.

**Віцебск.** Амбіцыйны праект па стварэнні авіякампаніі "Вітавія" праваліўся па прычыне адсутнасці сродкаў у інвестара, адсюль звольніліся 20 авіяспецыялістаў і лётчыкаў.

**Мёры.** На 2013 год з абласной інвестыцыйнай праграмы выдзелілі сродкі на працяг будаўніцтва найбольш значнага аб'екта сацыяльнай сферы – новай райбальніцы.

**Віцебск.** Толькі пасля з'яўлення ў Інтэрнеце здымкаў маладога заатэхніка кароў па бруха ў гноі, на калгаснай ферме Валькі ААТ "Агра Праца" тэрмінова навялі адносны парадак.

**Докшыцы.** На фоне агульнага зніжэння злачыннасці на Віцебшчыне ў раёне самая складаная крымінагенная абстаноўка ў вобласці з ростам крыміналу на 13,7 % сёлета.

**Глыбокае.** Аўтапарк № 16 папоўніўся новым беларускім аўтобусам МАЗ для гарадскіх перавозак, адпаведная тэхніка з'явілася таксама і на вуліцах Оршы, Полацка і Паставу.

**Наваполацк.** Двое п'яных безбілетных пасажыраў вечарам у аўтобусе схапілі за валосы жанчынукантралёра, адмовіліся плаціць за праезд і змаглі ўцячы спачатку ад міліцыі.

**Віцебск.** У апошні момант дэканат мастацка-графічнага факультэта дзяржуніверсітэта адмяніў выставу работ свайго выпускніка, вядомага беларускага мастака А. Марачкіна.

**Шаркаўшчына.** Юная спявачка з райцэнтра Паліна Вярыга заваявала 2-е месца на рэспубліканскім конкурсе маладых выканаўцаў эстраднай песні "Халі-Хало-2012".

**Віцебск.** Гарадскія ўлады вырашылі адабраць у студэнтаў станкаінструментальнага каледжа спортпляцоўку пад аўтастаянку ў гістарычным цэнтры насуперак закону.

**Сянно.** Работнікі Ходцаўскага сельсавета разам з мясцовай СШ-садам стварылі свой першы ў вобласці краязнаўчы музей з інтэр'ерам вясковай хаты і экспанатамі ў 6 пакоях.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Паставім надзейны заслон разам!

**А.Г. Абрамчык,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**З наступленнем халадоў і вялікай колькасці снега, які выпаў, работы ў супрацоўнікаў Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету не зменшылася.**

Толькі за мінулы тыдзень снежня інспектарамі выяўлена і спынена больш за 10 розных парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства. Вельмі шмат парушэнняў здзяйсняецца пры нарыхтоўцы драўніны. Гэта – незаконная высечка драўніны без дазваленчых дакументаў пад выглядам «чыстых палёў». Грамадзяне высякаюць, чамусьці, лепшую драўніну. Хмызнякі ж застаюцца, ды і дакументы часцяком адсутнічаюць. Пры вывазцы драўніны няма дакументаў на яе перавозку, хоць такія парушэнні могуць разглядацца як крадзеж лесу.

Асобныя грамадзяне свядома ідуць на парушэнне прыродаахоўнага заканадаўства. Так, 17 снежня супрацоўнікам міжрайінспекцыі паступіла паведамленне ад грамадзян пра тое, што паблізу в. Якубава Шаркоўшчынскага раёна жыхар раённага цэнтра ажыццяўляе незаконнае паляванне без дазваленчых дакументаў. Дадзенага грамадзяніна законапаслухмяныя паляўнічыя неаднаразова папярэджвалі пра тое, што паляваць у дадзенай зоне без паляўнічай пуцёўкі і егера - забаронена. Аднак грамадзянін Н. ігнараваў просьбы і патрабаванні паляўнічых і працягваў паляваць. Супрацоўнікі міжрайінспекцыі затрымалі парушальніка, зараз яго чакае разгляд у раённым судзе, самавіты грашовы штраф і пазбаўленне права палявання.

А трое жыхароў Глыбоцкага раёна вырашылі нарыхтаваць дроў, але ўзяць неабходны дакументы ў лясніцтве забыліся, паспелі ссекчы некалькі асін, але далейшую незаконную рубку спынілі інспектары. Парушальнікі аштрафаваныя.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету заклікае грамадзян актыўна дапамагаць супрацоўнікам у спыненні фактаў браканьерства, бо толькі з вашай дапамогай, неабыякавых да нашай прыроды людзей, мы зможам паставіць надзейны заслон парушальнікам прыродаахоўнага заканадаўства. Мы заўсёды гатовыя да супрацоўніцтва.

Тэлефоны «гарачай лініі» кругласутачна: 2-86-70 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 (МТС). Будзем удзячныя за любую дапамогу ў ахове прыродных рэсурсаў нашай краіны.

# Дартс – апошнія спаборніцтвы круглагадзічнай Спартакіяды працоўных калектываў Глыбоцкага раёна 2012 года

**Яўген Самсонаў**

**15 снежня ў будынку Глыбоцкага ЦФАП праходзілі спаборніцтвы самых трапных спартсменаў па дартсе. Гэта былі апошнія спаборніцтвы круглагадзічнай Спартакіяды працоўных калектываў Глыбоцкага раёна 2012 года.**

Заяўкі на ўдзел у спаборніцтвах падалі 10 працоўных калектываў: РАУС,РАЙПО,Мясакамбінат, Ліцэй, ПМК, Аграсервіс, ЖКГ, ГЭС, Падсвілле, Камбікармовы з-д.

У асабістым першынстве пераможцам стаў прадстаўнік камбікармовага завода Андрэй Дзікавіцкі, які выбіў 124 ачкі з 150 магчымых. На другім месцы – Ігар Шышко (РАУС) – 119 ачкоў. З вынікам 116 ачкоў спартсмен з "Аграсервіса" Андрэй Муляронак заняў трэцяе месца.

Сярод жанчын у асабістым заліку з вынікам 109 ачкоў пераможцам стала прадстаўніца каманды "Падсвілле" Алёна Пташнік. Другое месца – Анастасія Грэкава (Ліцэй) – 102 ачкі. Таццяна Рубашка (ГЭС) з вынікам 93 ачкі на трэцім месцы.

У камандным заліку: 1 месца – Падсвілле, 2 – Ліцэй, 3 – ГЭС.

Што датычыцца вынікаў круглагадзічнай раённай працоўнай Спартакіяды, то лідары, каманды "Ліцэй" і "ЖКГ" былі вядомыя загадзя, за некалькі відаў спаборніцтваў да заканчэння Спартакіяды. Змаганне за галоўную ўзнагароду Спартакіяды ішла выключна паміж гэтымі працоўнымі калектывамі, а ў астатніх амаль 40 камандаў не было ніякіх шанцаў, нават тэарэтычна, складзі ім канкурэнцыю ў гэтай барацьбе.

Наталля Холад

# Перад святам

**А.А.Бекіш,**
*інспектар Глыбоцкага МРа Энерганагляду.*

З кожным днём набліжаюцца навагоднія і калядныя святы. Ва ўсіх дамах, кватэрах, на прадпрыемствах, у дзіцячых садах, школах, установах культуры вядзецца актыўная падрыхтоўка: рыхтуюцца святочныя праграмы, упрыгожваюцца вуліцы, фасады будынкаў, залы і памяшканні і, вядома ж, прыбіраецца лясная прыгажуня-елка. Стварыць святочны настрой, навагоднюю атмасферу дапамагаюць рознакаляровыя агеньчыкі гірлянд, падсвятленняў будынкаў, рэкламных шыльд. Аднак, каб у навагоднюю ноч не атрымаць у «падарунак» пажар ці няшчасны выпадак, нават у разгар свята неабходна выконваць элементарныя меры электрабяспекі.

Першым чынам, для ілюмінацыі елак, памяшканняў і залаў павінны выкарыстоўвацца гірлянды электрычных лямпачак і электронныя прылады толькі завадскога вырабу. Перад развешваннем электрапрыбораў неабходна пераканацца ў адсутнасці пашкоджанняў лямпачак, патронаў, сілкавальных правадоў. Электрычныя лямпы гірлянд, якія выкарыстоўваюцца для вонкавай ілюмінацыі, павінны абараняцца ад траплення на іх пырсак вады і снягу. Электраправодку падключэння елкавых гірлянд, светлавога афармлення памяшканняў і будынкаў неабходна змясціць так, каб выключыць яе пашкоджанне. Пры выкарыстанні электрагірляндаў у памяшканнях з токаправоднымі падлогамі, на вуліцы рэкамендуецца падключыць іх праз прыладу ахоўнага адключэння (УЗО).

На прадпрыемствах і ўстановах неабходна прызначыць дзяжурны персанал, аб'екты свята забяспечыць сродкамі пажаратушэння і аказання першай медыцынскай дапамогі.

Паклапаціцеся пра электрабяспеку - і свята пройдзе для Вас весела і бестурботна. Жадаем шчасця і дабрабыту ў надыходзячым годзе.

# На Мядзельшчыне выпусцілі першы беларускі кальвадос

**На прадпрыемстве «Ілаўскае» Мядзельскага раёна выпусцілі першую партыю кальвадоса Першы беларускі кальвадос «Містэрыя»** («Le calvados mystere») **у бліжэйшыя дні паступіць у продаж.**

Першая партыя налічвае ўсяго толькі 239 бутэлек, кожная з якіх мае свой індывідуальны нумар.

Кальвадос — гэта моцны алкагольны напой, які вырабляецца на аснове яблычнага, значна радзей грушавага сідру. Крэпасць — каля 40 градусаў.

*Kraj.by*




*З чытацкай пошты*

# «Вось каб каровы ці свінні мёрзлі на ферме – рэакцыя была б імгненнай?»

**Ул. Скрабатун**

**На адрас «ВГ» па электроннай пошце паступіў калектыўны допіс ад бацькоў выхаванцаў дзіцячага сада №6. Ён паведамляе:**

«Звяртаемся да Вас ад імя ўсіх бацькоў д/с № 6 ясельнай групы А паведаміць грамадскасці аб тым, што ў нядзелю 16 снежня 2012 года нашу групу затапіла вадой, вада так моцна ішла, што ўсё плавала: і ложкі, і цацкі, якія былі набытыя на нашы грошы, і ўсе асабістыя рэчы. У чэрвені, калі мы прыйшлі ў гэту групу, тут нічога не было: ні цацак, толькі набор драўляных кубікаў, зламаная машынка і лялька без валасоў. Мы зрабілі рамонт сваім коштам.

Калі раніцай у панядзелак мы зайшлі ў групу - сэрца аблілося крывёй і хацелася плакаць – такое жудаснае было відовішча, усё мокрае: столь, сцены, падушкі, матрацы, а таксама цацкі, кнігі – усё набытае намі. А самае галоўнае, што мы, бацькі, звярталіся і да загадчыцы садка і ў аддзел адукацыі з просьбай пра тое, што ў нашай групе не грэюць дзве батарэі, і пры тэмпературы на вуліцы ў -6С° градусаў– тэмпература у групе была 16-18 градусаў, дзяцей клалі спаць апранутымі.У аддзеле адукацыі адказалі, што вырашаць нашу праблему, нават прыходзілі людзі глядзець батарэі, але на гэтым і ўсё... Сказалі, што прыйдуць рамантаваць у сераду ці ў чацвер, потым адказалі, што ў пятніцу, але так і не прыйшлі... Гэтага патопу можна было б пазбегнуць, калі б людзі «зверху» паставіліся адказна да нашай просьбы, але, на жаль... Я думаю, што калі б у выканкам патэлефанавалі і сказалі, што на якой-небудзь ферме мерзнуць каровы ці свінні – рэакцыя была б імгненнай, а дзеці, тым больш ясельнага ўзросту – гэта нішто?.. Сцюдзёна было і ў 1-м класе, які знаходзіўся над нашай групай (д/с №6 прадстаўляе памяшканне для двух першых класаў СШ №3), у іх таксама грэлі не ўсе батарэі, але на гэта ніхто не зважаў, пакуль з усіх труб не стала біць фантанамі вада».

## Каментарый «ВГ».

Па вялікаму рахунку нам («ВГ») можна было б і абмінуць гэтую тэму, якая пададзеная ў допісе бацькоў. Па адной толькі прычыне – а якім чынам спраўдзіць факты? Можна падумаць, што мне, альбо якому іншаму чалавеку з вуліцы дазволяць зайсці ў садзік і фатаграфаваць усюды, дзе заўгодна. Не, не дазволяць! І ў прынцыпе, будуць мець рацыю. Вунь у Амерыцы што робіцца!

Натуральна, аўтар гэтых радкоў пайшоў і візуальна агледзеў будынак садзіка звонку з усіх бакоў... Так, ёсць, і не мала, шыбаў пакрытых тоўстым слоем шэрані, на іншых жа шыбах шэрані няма. Ці з'яўляецца гэта паказнікам таго, што ў пэўных памяшканнях сцюдзёна, а ў іншых цёпла? Цяжка адразу сказаць! Вакол – мікрараён з 5-павярховых дамоў, але няма ніводнай шыбы, якая была б пакрытая шэранем!

Аднак, уся гэтая сітуацыя, якая выказаная ў допісе бацькоў, нагадала мне падобны выпадак, які адбыўся гадоў пяць таму ў суседнім садзіку, які наведвала мая ўнучка Насця. Вось туды аўтар гэтых радкоў і меў доступ, нават нехта з педагогаў наўмысна патэлефанаваў з просьбай прыйсці ў садзік і захапіць фотаапарат. Прыходжу. На плоце сушыцца з дзясятак падушак, матрацаў, коўдраў... Зайшоў у садзік, паказалі адно з памяшканняў. На падлозе – вада і тазікі, запоўненыя вадой, столь і сцены мокрыя, шпалеры адвальваюцца, пустыя ложкі...

Здымкі былі змешчаныя ў нашай газеце. Народ ушчаў гвалт: хутка зіма, мокрыя сцены прамёрзнуць, пачнуць сыпацца, таго й глядзі – будынак заваліцца. І былі ж тады падобныя выпадкі ў Беларусі і Расіі. У тэлевізійных навінах паказвалі! Бацькі пачалі тэлефанаваць у райвыканкам адказнаму чыноўніку... Прымайце меры! Там – нашы дзеці!

Калі верыць бацькам, адказны чыноўнік сказаў: «Я ніколі не чытаў «Вольнае Глыбокае» і чытаць не збіраюся, вам таксама не раю чытаць, супакойцеся, усё нармальна!»

Як нармальна? Такі адказ чыноўніка бацькам не супакоіў іх, а толькі распаліў жарсці... У выніку прыехалі выратавальнікі. І што яны ўбачылі? На даху садзіка – возера, а ўсе вадасцёкавыя трубы былі забітыя смеццем. Пра вынікі магчымых наступстваў, калі б бацькі усё ж паслухалі чыноўніка і супакоіліся, прагназаваць не буду.

Улічваючы падобныя акалічнасці мы вырашылі апублікаваць допіс бацькоў выхаванцаў д/с №6, якім пачынаецца гэты артыкул. Не той выпадак, калі нехта будзе хлусіць альбо беспадстаўна ўзнімаць алярм! Бацькі непакояцца за стан здароўя сваіх дзяцей, і гэта – натуральна.

Зразумела, любы дзіцячы садзік ці школа як установа адукацыі і бюджэтная арганізацыя не маюць такіх магчымасцяў хуткага рэагавання як завод ці камбінат, дзе ёсць штатныя слесары, зваршчыкі, а на складзе ляжаць запасныя трубы і батарэі ацяплення. Аднак, будзем спадзявацца, што на момант публікацыі гэтага матэрылу ў дзіцячым садку №6 усе нармальна: батарэі грэюць, а «з усіх трубаў не б'е фантанамі вада».



Кліменцій Кожан,
м. Германавічы.

# Герману Кірылаву – 75



Герман Кірылаў. г. Полацк. Фота alesarkush.

Споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння Германа Кірылава, беларускага пісьменніка і журналіста. Нарадзіўся Герман Іларыёнавіч Кірылаў 15 снежня 1937 года ў мястэчку Шаркоўшчына Дзісенскага павета ў сям'і дробнага рамесніка. Бацька Іларыён Іванавіч працаваў пільшчыкам, а маці была хатняй гаспадыняй. Герман быў чацвёртым у сям'і. Бацькі думалі аб забеспячэнні больш надзейных сродкаў для жыцця. Бацьку пашанцавала добра зарабіць падчас пракладкі палякамі чыгункі на Друю, на пілоўцы шпалаў. Ён змог пабудаваць у Шаркоўшчыне добрую хату. Але сям'я ў ёй жыла нядоўга: бацькі спакусіліся на абмен. Польскі чыноўнік мяняў некалькі гектараў зямлі, якая яму была выдзелена ў вёсцы Шкунцікі за заслугі перад Польскай дзяржавай, на хату ў Шаркоўшчыне. Абмен адбыўся. У 1939 годзе сям'я Кірылавых пераехала ў Шкунцікі. Жылі кутнікамі, пакрыху абжываліся. Жыхары Шкунцікаў з добрай душой прынялі перасяленцаў.

17 верасня Чырвоная Армія ўвайшла на тэрыторыю Заходняй Беларусі, якая была ўз'яднана з БССР. У Шкунціках пачаў дзейнічаць сельсавет, працавала школа-сямігодка. Начальства планавала правесці калектывізацыю сялянскіх гаспадарак. Але хутка пачалася вайна з фашысцкай Германіяй. Шкунцікі знаходзіліся паводдаль лясоў. Вёску абышлі баявыя дзеянні і карныя экспедыцыі акупантаў. Уцалелі млын, мост, школа.

У канцы лета 1944 года ў Шкунціках сабралі больш за паўсотні мужчын і калонай павялі іх у бок Шаркоўшчыны, каб потым адправіць на фронт. Пайшоў на фронт і бацька Германа Кірылава. Цяжка было маці адной спраўляцца па гаспадарцы.

1 верасня 1944 года Герман Кірылаў пайшоў у першы клас Шкунцікаўскай школы. На ўвесь клас быў адзін буквар, не хапала ручак, алоўкаў, сшыткаў. Герман адхварэў больш за месяц, але ў другі клас быў пераведзены. Увосень 1945 года вярнуўся з арміі бацька. Пасля заканчэння Шкунцікаўскай сямігадовай школы ў 1951 годзе Герман Кіралаў вучыўся ў Шаркоўшчынскай сярэдняй школе. У 1952 годзе бацькі вырашылі вярнуцца ў Шаркоўшчыну. Сям'я жыла ў наёмным памяшканні. Пазней бацька пабудаваў дом на новай вуліцы Лысенкі. Цяпер гэта вуліца Ф. Скарыны.

Скончыўшы ў 1954 годзе сярэднюю школу, Герман Кірылаў паступіў на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Пасля яго заканчэння ў 1959 годзе працаваў літработнікам у рэдакцыі Шаркоўшчынскай раённай газеты "Калгасны шлях". У 1960 годзе Герман Кірылаў быў абраны другім, у 1961 годзе – першым сакратаром райкама камсамола. Пасля скасавання Шаркоўшчынскага раёна ў 1962 годзе вярнуўся на журналісцкую працу.

Працаваў загадчыкам аддзела пісьмаў, потым загадчыкам аддзелаў сельскай гаспадаркі, партыйнага жыцця, намеснікам рэдактара Мёрскай міжраённай газеты "Сцяг працы". У 1965 годзе Германа Кірылава накіравалі намеснікам рэдактара ў Полацкую газету " Сцяг камунізму". На гэтай пасадзе працаваў да 1976 года. З 1976 года працаваў уласным карэспандэнтам абласной газеты "Віцебскі рабочы" ў Полацку. З 1995 па 1999 год быў карэспандэнтам шматтыражнай газеты "Трудовая смена" Полацкага вытворчага аб'яднання "Шкловалакно".

Друкуецца Герман Кірылаў з 1974 года. У гэтым годзе ў часопісе "Маладосць" было надрукавана апавяданне "Без крыўды ў сэрцы". У 1978 годзе ў часопісе "Беларусь" надрукавана апавяданне "Татава пілотка", потым апавяданне "Адажыо". У тым жа годзе ў часопісе "Маладосць" змешчана аповесць "Сонца тваіх вачэй". У 1983 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла кніга апавяданняў "Падлётак". Большасць з іх расказваюць аб вайне. І гэта невыпадкова. Аўтар належыць да пакалення, дзяцінства якога было абпалена вайной.

У 1989 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў раман "Пах жыта", першая частка, у якім расказваецца пра падзеі ў Заходняй Беларусі ў 1939 годзе. У 1997 годзе ў выдавецтве "Наша ніва" выйшла кніга "Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў" (Глыбокае, Паставы, 1945-1947гг).

Саюз Беларускіх Патрыётаў – гэта падпольная маладзёжная арганізацыя, якая ўзнікла восенню 1945 года сярод студэнтаў Глыбоцкага і Пастаўскага педвучылішчаў. 8 лютага 1947 года СБП быў разгромлены савецкімі карнымі органамі. Адбыліся два судовыя працэсы. 20 чэрвеня 1947 года ў Мінску былі засуджаны 34 сябры СБП. Другі працэс адбыўся 11-12 лістапада 1947 года ў Полацку. Было асуджана 10 чалавек. Пакаранне сяброў СБП было вельмі жорсткім. Чатыром была прысуджаная смяротная кара. Потым яе замянілі на 25 гадоў пазбаўлення волі (якраз у гэты час выйшаў указ аб адмене смяротнай кары ). Астатнія атрымалі розныя тэрміны зняволення ад 3-х да 25 гадоў. Большасць атрымала 10 гадоў пазбаўлення волі. У кнізе "Гарт" сабраныя ўспаміны 12 удзельнікаў СБП. За кнігу "Гарт" у 1997 годзе Герман Кірылаў узнагароджаны прэміяй імя Алеся Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра.

У часопісе "Полымя" за 2000-ы год надрукавана аповесць "Піраміда". Герман Кірылаў піша таксама п'есы, нарысы, гумарэскі, рэцэнзіі.

Хочацца павіншаваць аднакласніка па Шкунцікаўскай школе, даўняга сябра Германа Кірылава з 75-годдзем, пажадаць яму моцнага здароўя, натхнення і плёну ў далейшай літаратурнай творчасці.

# Іх людзі называлі Радзюкамі

Людміла Ардынская

**З вялікай прыхільнасцю і павагай стаўлюся да заўзятых краязнаўцаў. Сябе ж далучаю да краялюбаў, якія ўлюбёныя ў свой край, імкнуцца ведаць яго гістарычнае мінулае, берагуць і захоўваць яго культурную спадчыну.**

Сваёй справай лічу паэтызаваць тое, што здабыта намаганнямі краязнаўцаў, або што цікавіць мяне. Да апошняга адносяцца назвы вёсак, паселішчаў, месцаў, дзе даўно ўжо не жывуць людзі, а назвы рэчак, азёр існуюць. Многія назвы звязаны з паданнямі, легендамі, якія забыліся людзьмі. Штосьці яшчэ захавалася ў памяці сталых людзей, якія, на жаль, сыходзяць з жыцця.

У вёсцы Радзюкі і навакольных вёсках ёсць людзі з прозвішчам Радзюк. У дыялектных гаворках беларусаў ёсць слова радзець (старацца працаваць, быць руплівым, дбайным гаспадаром). Магчыма, такіх людзей звалі радзюкамі, адсюль – прозвішча. Так з'явіўся верш аб паходжанні назвы вёскі Радзюкі, тут ёсць аўтарскі вымысел. Але пасля прыезду на бацькаўшчыну ў Радзюкі прафесара з Гданьску пана Бароўскага з нашчадкамі з'явіўся верш з другой версіяй назвы. Яна ўжо заснавана на паданні, якое ім перадалося старэйшым пакаленнем і падтрымліваецца старэйшымі радзюкоўцамі.

### Радзюкі альбо Райдзюкі?

Першая версія паходжання назвы вёскі.

Даўным-даўно жыў чалавек ён ўзлессі,
Быў добры гаспадар, араў і скарадзіў.
Кідаў авёс у гразь і жыта сеяў,
Трымаў калоды пчол, на звераём хадзіў.
Пад нівы ляды расчышчаў чуць днее.
Пшаніцу малаціў і апрацоўваў лён.
Казалі людзі: "Ён стараецца, радзее,
Бо бачны быў ад дбайнай працы плён".
Ад ранку шчыраваў ён на сялібе.
Не шкадаваў ні ног, ні вузлаватых рук.
Не бачыў у ім, здаецца, ніхто хібаў,
І далі яму прозвішча Радзюк.
Ён будаваў жытло цяпер ужо з сынамі
З дубовага бярвення на вякі.
Іх людзі называлі Радзюкамі,
А вёску, што ўзнікла, Радзюкі.
Хрысціліся, жаніліся, уміралі.
Дапамагалі людзям, чым маглі,
Скакалі польку, на цымбалах гралі,
Сваім стараннем вёску заснавалі.
Яна й цяпер завецца Радзюкі.

### Версія другая.

Магчыма й быў Радзюк таму адзінай сведкай,
Рака Бярозаўка, што з веку ў век бяжыць.
Але ў нашчадкаў той зямлі свая даведка,
І версіі другой даецца шанец жыць.
Вельмі даўно, дзе бераг радзюкоўскі,
Дзе і цяпер чужая спадчына ляжыць,
Купіў маёнтак шляхціч пан Бароўскі,
І ў еўрапейскім стылі стаў ён жыць.
Стварыў цудоўны паркавы ансамбль,
На жаль, цяпер ужо рэшткі тых алеяў.
Раскошны сад усіх суседзяў вабіў
Экзотыкай праслін у аранжарэях.
Ледзь чутныя хвалюючых гукі
Мазуркі, паланэза далятаі.
У пакоях за раялем пані Дзюка*
Шапэна, Баха, Моцарта ірала.
Птушыны спеў у паркавых прысадах,
Альтанкі сярод бэзу і язміну.
У маёнтак запрашэнню былі рады,
І доўга ўсіх не пакідалі ўспаміны.
Прыемнай, дабрадзейнай была пані,
З маёнткаў Лонка, Мосары і Букі,
Бароўскіх вотчына найпрыгажэйшаю прызнана.
З ахвотай госці ехалі ў Рай Дзюкі.
Прыязнасць да людзей і іх гасціннасць
Змаглі нашчадкі ў продкаў пераняць.
Адукаванасць і духоўнасць далі слынь насць,
Падставу вёску Раем Дзюкі называць.
Па-беларуску – Радзюкі, паляк кажа: "Радзюкі".
Ён роўна мілы нам чаромхавы наш край.
Паданне ў забыцці, адбыўся выпад гуку (й),
Што як кавалачак жыцця, у якім быў рай.

* Жаночае імя, магчыма: Ядвіга – Ядзюня – Ядзюнька – Дзюка.



**Пашкоджанне надземных кабельных ліній сувязі прыводзіць да працяглага спынення працы сродкаў тэлефоннай сувязі, радыёвяшчання, інтэрнэту і тэлебачання.**

## Увага! Кабель сувязі!

**Кіраўнікі арганізацый прадпрыемстваў усіх форм уласнасці і грамадзяне!**

Памятайце, што работы, звязаныя з раскопкамі на глыбіню звыш 0,3 м у сельскай мясцовасці, і, незалежна ад глыбіні, у горадзе, можна праводзіць толькі пры наяўнасці ордэра, які выдаецца УП ЖКГ – у горадзе і архітэктарам раёна – у вёсцы.

Амаль штодзённа, як у горадзе, так і ў сельскай мясцовасці праводзяцца работы па пракладцы вада- і газаправадаў, добраўпарадкаванню двароў, тэрыторый населеных пунктаў, рамонту і будаўніцтву платоў, заглыбленню і чыстцы канаў, іншыя земляныя работы.

Майце на ўвазе! Перш чым пачаць работы, узгадніце з раённым вузлом электрычнай сувязі трасы праходжання кабельных ліній сувязі. Для гэтага за тры дні да пачатку работ звярніцеся ў РВЭС і запрасіце нашага прадстаўніка.

Будзьце ўважлівыя і адказныя пры правядзенні работ, бо за пашкоджанне сродкаў сувязі ўстаноўлена адміністратыўная адказнасць і кампенсаванне матэрыяльнага ўрону ў поўным памеры.

**Выклік прадстаўніка сувязі і ўзгадненне работ праводзяцца па адрасах:**

у г. Глыбокае:

– вул. Палявая, 21. РВЭС. Тэлефон: 2-85-61, 2-85-45

– вул. Палявая. 21 МКУ. Тэлефон: 2-23-50, 2-22-49

у г. Паставы:

— вул. Савецкая, 81. ЛТЦ-54. Тэлефон: 8-02155-4-22-40, 4-16-45

***Глыбоцкі раённы вузел электрычнай сувязі.***

# Брэсцкая царкоўная унія 1596 года ў барацьбе Вялікага княства Літоўскага за незалежнасць



■ Фадзей Шымуковіч,
*настаўнік-пенсіянер, г. Дзісна.*

**Заканчэнне.**
***Пачатак у №49 (661)і №50 (662), 2012 г.***

Згодна з падпісаным дакументам прыхільнікі уніі атрымлівалі такія ж грамадзянскія правы, якія дагэтуль мелі каталікі, найперш права ўдзелу ў працы соймаў. Яны таксама атрымалі некалькі месцаў у Радзе – вышэйшым выканаўчым органе Рэчы Паспалітай.

Аднак частка праваслаўнага духавенства па розных прычынах не падтрымала вышэйшы клір і заявіла пра сваё цвёрдае жаданне трымацца "веры бацькоў". За аднаўленне праваслаўя, зарыентаванага на Усход, выступілі епіскапы: Львоўскі Г.Балабан, Перамышльскі М. Капысцінскі, архімандрыт Кіева-Пячорскай лаўры Н.Тур, ваявода Наваградскі Ф.Скумін і іншыя. Там жа, у Брэсце, яны правялі свой сабор, апратэставалі ўсе пастановы ўніятаў і заклікалі праваслаўных жыхароў ВКЛ не падпарадкоўвацца "адступнікам" – мітрапаліту і епіскапам. З гэтага моманту паміж уніятамі і праваслаўнымі пачацца працяглы перыяд бескампраміснай барацьбы.

Нягледзячы на тое, што епіскап Полацкі і Віцебскі Г.Герман сам падпісаў "Пастанову пра унію", святары на месцах не заўсёды і не ўсе гэтую пастанову выконвалі. Ішла жорсткая барацьба за праваслаўе. Так, у Дзісне Уваскрасенская царква стала уніяцкай. Але праваслаўныя вернікі ў 1632 годзе са скаргай на ўніятаў звярнуліся да караля Уладзіслава IV вярнуць царкву праваслаўным, што каралём было і зроблена праз некаторы час. Тады ж пры Уваскрасенскай царкве праваслаўныя ўтварылі "праваслаўнае братства", задачай якога была барацьба з уніятамі за "бацькоўскую веру". Уладарка прыгараднага маёнтка Дарожкавічы каталічка Людвіка Кастравіцкая сваіх прыгонных сялян зрабіла ўніятамі. І па сённяшні дзень побач з каталіцкімі могілкамі існуюць уніяцкія, хаця там цяпер хаваюць праваслаўных з тых вёсак, якія тады былі ўніяцкімі.

У 1656 годзе дзісенцы без бою здалі горад маскоўскім войскам цара Аляксея Міхайлавіча з надзеяй, што будуць пакараны ўніяты. Але за 5 гадоў акупацыі прыйшлі да высновы, што разграбілі не толькі ўніяцкія святыні і ўніяцкія сем'і, але і праваслаўныя, і габрэйскія. У 1661 годзе ноччу напалі на рускіх стральцоў, павязалі іх і здалі ваярам ВКЛ.

Уніяцкі біскуп Іасафат Кунцэвіч у Віцебску ў час накіроўвання да царквы быў сустрэты натоўпам праваслаўных, які перагарадзіў яму дарог. Адзін з іх падышоў да біскупа і ўдарам сякеры па галаве забіў яго. Раз'юшаны натоўп мёртвага біскупа апусціў пад лёд Заходняй Дзвіны. Прыняўшы пакутніцкую смерць, біскуп Іасафат Кунцэвіч кананізаваны ўніяцкай царквой у святыя пакутнікі, і яго абраз быў вывешаны ў Полацкай Сафіі, дзе ён пачынаў свой шлях святара.

У час Паўночнай вайны ў 1705 годзе цар Пётр І на працягу месяца знаходзіўся ў Полацку. Аднойчы ён са сваёй світай, у якую ўваходзіў Меншыкаў і афіцэры, нанёс візіт у Сафію. Простых вернікаў-уніятаў у Сафіі ў гэты час не было, а маліліся толькі шасцёра святароў і манахаў, ад якіх цар запатрабаваў зрабіць яму па святой Сафіі экскурсію. Вікарый Канстанцін Зайкоўскі мусіў перарваць імшу і падпарадкавацца. Каля кожнага алтара цар спыняўся, і святар апавядаў яму пра паходжанне абразоў. Убачыўшы абраз святога Іасафата Кунцэвіча і пачуўшы аповяд вікарыя пра жыццё і пакутніцкую смерць архіепіскапа, цар з шалёным агнём у вачах спытаў: "Хто ж яго адправіў на той свет?" Вікарый, аднак, цвёрда адказаў: "Святога айца Іасафата пазбавілі жыцця віцебскія схізматыкі". Гэтага хапіла, каб цар выцяў немаладога святара пудовым кулаком па галаве. Зайкоўскі ўпаў, і Пётр І пачаў біць ляжачага вікарыя кіем, потым секчы шабляй. Меншыкаў выхапіў палаш і адным ударам забіў прападведніка Феафана Кальбячынскага. Па прыкладзе свайго гаспадара афіцэры ўжо секлі рэгента сабornага хору Якуба Кнышэвіча, айцоў Язэпа Анкудовіча і Мялеція Кандратовіча. Старога архімандрыта Якуба Кізікоўскага царовы слугі забралі ў свой табар і ўсю ноч катавалі, патрабуючы выдаць, дзе схаваны саборны скарб. Уранні айца Якуба павесілі. У пятлі загінуў і зранены вікарый Зайкоўскі. Уратаваўся толькі адзін Язэп Анкудовіч, якога палічылі забітым у саборы.

Помнік архітэктуры полацкі Сафійскі сабор, пабудаваны пры князі Усяславе Барысавічу паміж 1044 і 1066 гадамі як праваслаўны мураваны пяціфнефавы крыжовакупальны храм з трыма гранёнымі апсідамі. Сцены складзены з прыроднага каменю і плінфы тэхнічнай паласатай муроўкі, характэрнай для полацкай школы дойлідства, спачатку быў апаганены і перайтвораны ў парахавое сховішча, створанае ў сутарэннях сабора. Па адной простай прычыне, што ён у гэты час належаў уніятам. 1 мая 1710 года падчас адыходу з Полацка расійскіх войскаў адбыўся выбух у парахавым складзе. Выбух знішчыў сцяну, левы берагавы алтар і пашкодзіў скляпенні і калоны. Прычына выбуху не ўстаноўлена.

У другой палове XVII і ў XVIII стагоддзі ў поўнай меры выявілася тэндэнцыя акаталічвання ўніяцкай царквы. Тады нават узнік рух, мэтай якога было поўнае зліццё ўніяцтва з каталіцтвам і толькі дзякуючы прынцыповай пазіцыі мітрапалітаў Цыпрыяна Жахоўскага, Яна Кішкі і іх паплечнікаў, якія працягвалі традыцыі прыхільнікаў самабытнасці ўніяцтва Іпацiя Пацея, Іасафата Кунцэвіча і І.Руцкага, вернікі-ўніяты не былі перайтвораны ў каталікоў. Па некаторых даных у ВКЛ 39% насельніцтва былі ўніятамі, 38% – каталікамі, 10% – іўдзеямі і толькі 13% праваслаўнымі.

Гістарычныя, палітычныя і рэлігійна-тэалагічныя аспекты міжканфесіянальнага змагання вызначылі змест і характар айчыннай публіцыстыкі, сталі моцнымі імпульсамі развіцця беларускай літаратуры, духоўнасці і культуры.

Уніяцкая царква праіснавала на нашай тэрыторыі 244 гады і стала адметнай з'явай духоўнай культуры беларускага народа. У 1629 годзе лідары ўніяцкай царквы выступілі з ідэяй стварэння Беларускай патрыярхіі, пад уладай якой яны хацелі аб'яднаць усіх вернікаў усходняга абраду. Уніяты адкрылі ў ВКЛ шэраг навучальных устаноў, найбольш вядомыя з якіх Навагрудская і Мінская школы. Уніяцкія манастыры Полацкі, Ляшчынскі, Магілёўскі, Пінскі і Жыровіцкі мелі багатыя кнігазборы. Працавалі Віленская і Супрасльская ўніяцкія друкарні, якія выпусцілі сотні адозваў.

Уніяцкая царква была ідэйным натхняльнікам і рупарам вызваленчых паўстанняў Т.Касцюшкі і К.Каліноўскага і сродкам кансалідацыі ўсяго насельніцтва вакол паўстанцаў. Уніяты пакінулі багаты архіў дакументаў. Царскі ўрад, убачыўшы ва ўніятстве галоўнага ворага сваёй імперскай палітыкі, у 1839 годзе забараніў уніяцтва.

# Ну, дык ці добра мы зрабілі?...

... Рукі ягоныя раптам здрыгануліся над танюткай кніжкай у цёмнай з разводамі вокладцы.

– Ого!.. «Апавяданні на беларускай гаворцы»... І адразу ж крамолай засмярдзела... Вось вам і малітоўнічкі... Спачатку яны, а потым наконт царскага сямейства.

– Ды ў чым там справа?

– А вось апавяданне: «Чы добра мы зрабілі, пакінуўшы вунію?» Бачыце, яшчэ разбіраецца, мужыцкая морда. Не з такой галавою людзі гэта вырашылі, а ён ім пытанні задае... «Чы добра?»

(...)

...Вечар быў страшны для Буткевіча. Не ведаючы, што рабіць, як пазбыцца неадчэпных думак, ён узяў кнігу «Апавяданні на беларускай гаворцы» і пачаў гартаць. І тут яго чакаў яшчэ адзін удар.

Пачытаўшы з гадзіну, ён моўчкі пайшоў у пакой паручніка, які якраз сядзеў у крэсле і, пакурваючы, пакутаваў ад суму. Працягнуўшы яму кнігу, Буткевіч спытаў:

– Ну... Дык «чы добра мы зрабілі, пакінуўшы вунію»?

– Вы што, – спытаў Вольке, – блёкату наеліся?

– Ён даводзіць... ён даводзіць, што... добра. І вось у канцы...

Мы не паглядзелі ў канцы. Тут надпіс: «Дазволена цэнзураю».

(...)

Ён рашуча дадаў:

– Заўтра я падам у адстаўку, Вольке. І вы падтрымаеце мяне. І няхай суд, а я з'еду з кардона зараз, цяпер. Калі армія займаецца тым, што ловіць людзей і забівае іх за малітоўнікі, - дык... я хацеў на такую армію.

– Вы звар'яцелі, Буткевіч, – сказаў Вольке.

– Я проста прачытаў адну крамольную кнігу, – з сумнай палёгкаю адказаў Буткевіч. - Яны нядрэнна зрабілі, што перанеслі іе цераз мяжу... Трэба паспрабаваць, трэба вярнуць адну тут... жанчыну. Я мяркую, што яшчэ не позна.

***Уладзімір Караткевіч, «Кніганошы».***

■ **Уладзімір Скрабатун**

**Доўгія гады я не ўлазіў у спрэчку на тэму рэлігіі... Навошта? Нажыць сабе ворагаў? І без таго шмат разоў мяне абвінавачвалі ў тым, што я, нібыта, хачу навярнуць праваслаўных беларусаў на веру прапрапрадзедаў – уніяцтва. Я задаваў сустрэчнае пытанне: «Дзе і калі я тое напісаў альбо сказаў?» Адказу не было, бо й ні разу на гэтую тэму аўтар не выказваўся. Склаўся нейкі стэрыятып: не сказаў, але сказаць мог! Думкі чытаюць? А раней і за думкі расстрэльвалі. Аднак, спадар Шымуковіч ініцыяваў мяне напісаць каментар...**

Усе аўтары, якія пісалі і пішуць на тэму ўніяцтва, заканчваюць сваё апісанне 1839 годам, годам ліквідацыі уніі. А што далей? Ніхто не задаецца пытаннем: «Ці добра мы зрабілі, што пакінулі унію?» Гэта тэма, на якую, нібыта, накладзенае табу. Забаронена пісаць. Чаму?

Справа ў тым, што ініцыятыва па ліквідацыі уніі зыходзіла не ад саміх беларусаў, а ад уладаў Расійскай імперыі і Рускай праваслаўнай царквы. Беларусь у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай сталася тэрыторыяй, акупаванай рускімі, і нікому не было цікава меркаванне саміх беларусаў. Хто будзе пытацца меркавання ў паняволенай нацыі! Рускія самі вырашылі, што лепш для беларусаў. Тут, як ў Караткевіча, – куды нам беларусам, тут з не такой галавой людзі за вас вырашалі. Сёння гэтую сітуацыю назвалі б – форс-мажорам.

Між тым, да 1839 года на нашай зямлі ніякіх беларусаў не жыло. Сам панятак Белая Русь адносіўся да тэрыторыі, дзе сёння стаіць Волагда, і знаходзіцца ваколіцы Масквы, але ніяк не да нашай зямлі!

І што тут было, і хто жыў? Тут была Літва, і яе жыхароў называлі літвінамі, а літвіны былі ўніятамі.

Цяпер, каб не было лішніх пытанняў, адзначым адразу, што тэрыторыя сённяшняй Літоўскай Рэспублікі на тым часе называлася Жамойція (па-польску – Жмудзь, палатыні – Самагіція). Сёння, калі ёсць інтэрнет, гэта вельмі лёгка спраўдзіць, бо ў інтэрнэце – сотні сканаў старажытных мапаў. І мы там убачым тое, што трэба ўбачыць: ад Вільні – паўз Глыбокае – да Смаленска, на мапе палатыні напісана – Lithuania, г.зн. Літва. Герб «Пагоня» побач. Там, дзе Коўна (Каўнас), напісана – Samogitia, г.зн. Жамойць. Герб Мядзведзь побач.

Улады царскай Расеі і яе спецслужбы доўгія гады ламалі галовы: «Што рабіць з Літвой і літвінамі?» Чаму? Літвіны мелі гонар, былі мужным і адважным народам, рыцарамі і ваярамі! Пад кіраўніцтвам вялікага князя Альгерда літвіны разбілі татараў у бітве на Сініх Водах (восень 1362 г). Дык Альгерд жа па глыбоцкіх вуліцах яшчэ і Маскву ішоў брацць. Альгердаў шлях – усе чулі! Літвіны разам са злучанымі войскамі Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага 15 ліпеня 1410 года нанеслі паражэнне тэўтонскім рыцарам пад Грунвальдам. 500 гадоў!!! немцы бот не ступаў на тэрыторыю Літвы (Беларусі). Во пашкуматалі немчуру літвіны - рыцары: хлопцы з Глыбокага, Дзісны, Браслава, Паставаў, Полацка, Мінска... Смаленска!

Ды што тут казаць! Наш вялікі глыбачанін Язэп Корсак, ваявода, браў удзел у вайсковых дзеяннях за адваяванне ад маскалёў нашага Смаленска, хадзіў з Уладзіславам IV на Маскву. А што за свята 4 лістапада цяпер святкуе Расія? Дзень вызвалення ад літоўскага ярма! А хто тыя літоўцы (г.зн літвіны) былі? Ну, зразумела, продкі цяперашніх беларусаў. Адкуль жа гэты самазванец Лжэдзмітрый быў? Са Шклова, спадарства.

Во праблема! А яшчэ гэтыя літвіны ўніяты вырошчвалі і елі бульбу! А ў Расіі не елі, называлі яе д'ябальскім плодам! Маглі й галаву адсячы! Жах! Вось адкуль пайшла мянушка – «бульбашы»! З тых часоў! І ніяк не з-за таго, што сёння самая распаўсюджаная сельскагаспадарчая культура Беларусі – бульба. Бульбу цяпер ядуць і рускія, але «бульбашамі» іх ніхто не кліча.

У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай Літва-Беларусь была далучаная да Расійскай імперыі. Вы думаеце літвіны з гэтым змірыліся? Не! У 1794 годзе Тадэвуш Касцюшка ўзняў паўстанне. Касцюшка не быў палякам, а казаў: «Нарадзіўся я літвінам...», г.зн. беларусам. Вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч таксама ўсведамляў сябе літвінам!

Litwo! Ojczyzno moja! ty jesteś jak zdrowie. (Літва! Айчына мая! Як здароўе ты мне дарагая.)

У 1812 годзе, калі Вялікая Армія Напалеона ішла праз Літву-Беларусь на Маскву, літвіны масава ўступалі ў армію французскага імператара, бо ён даў абяцанне аднавіць незалежнасць Вялікага Княства Літоўскага. Потым ізноў паўстанне 1831 года... Згадаем Эмілію Плятэр, якую клічуць беларускай Жанай д'Арк. І яна ўсведамляла сябе літвінкай.

Што рабіць з гэтым гордым і няскораным народам – літвінамі? Як іх навярнуць на рускіх? Тайная расійская канцылярыя прыняла рашэнне – пазбавіць літвінаў гістарычнай памяці. Вынік: Літва стала называцца Беларуссю, літвіны – беларусамі, уніятаў гвалтоўна далучылі да праваслаўных, а хто не схацеў – за хабар – далучыўся да каталіцтва. З таго часу праваслаўных пачалі называць рускімі, каталікоў – палякамі. Нават сёння гэта адчуваецца!

Пасля распаду Расійскай імперыі частка Беларусі была далучаная да Польшчы, частка да СССР. Каб канчаткова вырашыць «літвінскае пытанне», Ленін перадаў сталіцу Літвы (Беларусі) Вільню – Жамойці. Жамойты, у адрозненне ад беларусаў, здабылі незалежнасць і вырашалі свае пытанне самі. Яны паднялі тое, што ўжо нікому не было патрэбнае, прынамсі, беларусам. З гэтага часу ўся слаўная гісторыя Літвы (Беларусі), герб Пагоня, сталіца, дасталіся Жамойці, якая ўжо стала называцца Літвою.

Калі б, гіпатэтычна, унія датрывала да распаду Расійскай імперыі, то яна стала б генератарам нацыянальнага адраджэння. Мы не згубілі б не толькі Вільню, але і Смаленск, Бранск, Беласток, Себеж, Невель, Рослаў.., бо на гэтай тэрыторыі спрэч стаялі ўніяцкія цэрквы. Гэта было б важкім аргументам на карысць тэрытарыяльнай цэласнасці Літвы (Беларусі).

Можна напісаць сотні артыкулаў на тэму дэпапуляцыі Беларусі і як гэтую праблему вырашыць, але ўсё гэта марна! Даўно прааналізавана і падлічана, што на гэтай тэрыторыі сёння павінна было б пражываць сама меней 40 мільёнаў чалавек, пражывае ж – 9,5 мільёнаў. І тэндэнцыя толькі да далейшай дэпапуляцыі! Чаму? Пасля ліквідацыі уніі ў нас – на голым месцы – узнік польскі этнас, бо не ўсе запісаліся праваслаўнымі, нямала пайшло і ў каталіцызм! Католік, значыць, паляк – раней гучала як аксіёма. Гэта ж толькі ў гады незалежнасці Беларусі Касцёл стаў канчаткова бастыёнам беларушчыны.

А раней? Толькі з адной колішняй уніяцкай вёскі Мосар, якая потым стала выключна каталіцкай (у ментальнасці – польскай) у польскім корпусе генерала У.Андэрса ваявала да 40 чалавек! Так, яны героі, шмат хто мае ўзнагароды, ваявалі супраць фашыстаў, некаторыя загінулі і пахаваныя пад Монтэ Касіна ў Італіі. Але ж ваявалі яны не за Беларусь супраць немцаў, а за Польшчу. І з тых, хто ваяваў і не загінуў, хто вярнуўся дадому? Ніхто! Усе склалі за мяжой польскую дыяспару. Такі самы прыклад з Дзеркаўшчынай і іншымі паселішчамі... Пасля вайны цэлымі вёскамі, цэлымі парафіямі, разам з ксяндзамі, колішнія літвіны ўніяты, а цяпер каталікі ў ментальнасці – палякі, выехалі з Беларусі і засялілі Гданьскае Памор'е – гэтак жа сама сваімі колішнімі вёскамі.

І што мы маем сёння? Колішнія літвіны, цяпер беларусы, упарта змагаюцца, збіраючы подпісы, за закрыццё беларускіх школаў, жывуць грамадзянскімі шлюбамі, не ствараючы сем'яў, не жадаючы мець больш аднаго дзіцяці, масава, назаўсёды і СЁННЯ, з'язджаючы на сталае жыхарства ў іншыя краіны.

Ну, дык ці добра мы зрабілі, што пакінулі унію? Рабіце высновы самі, шаноўныя чытачы!

